ISSN – 5172

*БАЙЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К.Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

**ZVAZAJ – Magazine, published quarterly by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans.** ***Address: CANADA: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2***

***U.S.A: Assn of Byelorussian-American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904***

Год 9 | Чырвень, 1983 | № 2 (30)

## БЕЛАРУСКІ АРХІПЭЛЯГ "ГУЛАГ"
### (ТУРМЫ Й КАНЦЛЯГЕРЫ Ў БЕЛАРУСІ)

Нядаўна выйшла з друку другое выданьне працы Абрагама Шыфрына "Першы даведнік пра турмы й канцэнтрацыйныя лягеры Савецкага Саюзу" (1). У 1980 г. аўтар апублікаваў першае выданьне свае кнігі. Праца ізраэльскага аўтара – "турыстычны" даведнік пра турмы й канцлягеры СССР. У гэтым даведніку, апроч інфармацыі пра кантоторы савецкага Інтурыста, знаходзім весткі пра тое як можна даехаць да паасобных турмаў і канцлягераў, а таксама, па меры магчымасьці, найбольш дакладныя інфармацыі пра лікі зьняволеных у кажнай з тых установаў. Першае выданьне выйшла ў Швайцарыі (2). Яго вельмі цяжка было купіць. Другое-ж выйшла ў ЗША ў 1982 г. (3).



А. Шыфрын нарадзіўся ў Маскве ў 1923 г. У 1953 г. ён быў арыштаваны й засуджаны на кару сьмерці. Аднак прыгавор замянілі на 25 год турмы. Пасьля дзесяці гадоў яго выпусьцілі на свабоду й пазволілі эміграваць у Ізраэль у 1970 г., дзе ён цяпер зьяўляецца дырэктарам Дасьледніцкага Цэнтру савецкіх турмаў, канцлягераў і псыхічных бальніцаў (4).

Даведнік зьмяшчае інфармацыі пра 1976 канцлягераў, што былі дзейныя ў 1980 г., 273 вязьніцы й 85 псыхіятрычных бальніцаў, якія выконваюць функцыю турмаў. Асобны разьдзел прысьвечаны агляду 99 лягераў прымусовай працы для жанчын і дзяцей. Затым ідзе інфармацыя пра псыхіятрычныя ўстановы: 16 у Маскве, 10 у Ленінградзе, 55 у іншых раёнах СССР. Аўтар падае таксама сьпісак 41 лягеру зьнішчэньня, у якіх сьмерць амаль пэўная. І, нарэшце, 300 бачын – сьпіс турмаў і лягераў прымусовай працы ў паасобных раёнах.

Але нас цікавіць Беларусь. Пра беларускі "Архіпэляг Гулаг" гаворыцца на бач. 67-72. А. Шыфрыну ведамыя 33 карныя ўстановы, а іх месцы знаходжаньня адзначаныя на далучанай карце БССР. Вось яны:

*Полацак* – лягер прымусовай працы ўзмоцненага рэжыму № УЖ–15/10-1 для мужчын. 1 000 зьняволеных. Выкарыстоўваюцца на будаўніцтве й пры пагрузцы й разгрузцы тавараў.

*Новаполацак* – лягер прымусовай працы звычайнага рэжыму № УЖ – 15/10. Каля 1000 зьняволеных. Выкарыстоўваюцца ў дрэваапрацоўцы й дарогабудаўніцтве.

*Віцебск* – Ведамая вялікая вязьніца з 3000 зьняволеных і лягер прымусовай працы, у якім знаходзіцца 1 500 вязьняў. Выкарыстоўваюцца ў прамысловасьці.

*Ворша* – Чатыры падсэкцыі (А, Е, В і Ж) лягеру прымусовай працы № УЖ – 15/12 і лягер УЖ – 15/6-У. У гэтых пяці лягерох прымусовай працы звычайнага рэжыму (усе яны знаходзяцца ў межах гораду) каля 8 000 зьняволеных выкарыстоўваецца ў прамысловасьці, будаўніцтве й рамонце дарогаў, гальванізацыі сталовых прыладаў і ў сельскай гаспадарцы.

*Горкі* – Лягер прымусовай працы № УЖ – 15/9. Каля 1 000 зьняволеных. Выкарыстоўваюцца ў вытворчасьці мэталічных запасных частак для мясцовай прамысловасьці. Каб даехаць у хвабрыку, дзе яны працуюць, трэба браць аўтобус № 3 з цэнтру гораду.

*Магілёў* – Турма (2 500 – 3 000 вязьняў) і два лягеры прымусовай працы: № УЖ – 15/5 – 1 500 зьняволеных. Працуюць у Лаўсанаўскім прамысловым комплексе. Пад'езд – аўтобус № 14, які едзе з цэнтру гораду. Лягер № УЖ – 15 – 600 зьняволеных, якія выкарыстоўваюцца ў вытворчасьці мэталічных сталовых прыладаў.

*Бабруйск* – Два лягеры для дзяцей. Адзін на вуліцы Бахарава, дзе 1 000 зьняволеных дзяцей працуе ў вытворчасьці мэблі й скрынак для ўпакоўкі (аўтобус № 20)

і лягер, у якім знаходзіцца ад 600 да 800 дзяцей (працуюць у майстэрні). Пад'езд з цэнтру гораду аўтобусам №6. Сярод гэтых дзяцей ёсьць тыя, што былі насільна адабраныя ад бацькоў з мэтаю "перавыхаваньня". Паколькі іхныя бацькі практыкуючыя хрысьціяне, улады мяркавалі, што яны "дрэнна" ўплываюць на іншых дзяцей.

Апроч гэтага ў Бабруйску 1 500 вязьняў працуе ў бэтонна-вытворчай хвабрыцы ўва ўмовах узмоцненага рэжыму (аўтобус № 2). З другога боку аўтобус № 11 завязе вас на шынны завод, дзе працуе 1000 зьняволеных зь лягеру прымусовай працы № УЖ – 15/2.

*Салігорск* – Больш за 2000 вязьняў працуе пра будове калійна-хлёрыстай хвабрыкі.

*Сьветлагорск* – Каля 1 500 вязьняў будуе хімічна-прамысловую хвабрыку.

Турмы, дзе вязьняць людзей за палітычныя й рэлігійныя перакананьні, разам із звычайнымі злачынцамі, ёсьць у Горадні (2000 вязьняў), Берасьці (1000 зьняволеных), Пінску (800) і Гомелі (2000).

Лягеры прымусовай працы для мужчын існуюць у Маладэчане, Глыбокім (Бярэзьвічы), Барысаве, Баранавічах, Івацэвічах, Ваўкавыску й Мазыры. "Лягеры прымусовай працы, – адзначае Шыфрын, – параскіданыя па ўсёй Беларусі. Укажным зь іх, сярод звычайных правапарушальнікаў, ёсьць утоеныя палітычныя вязьні."

Асобны разьдзел аўтар прысьвячае турмам і лягерам прымусовай працы сталіцы Беларусі – Менску. "З задніх вокнаў вышэйшых паверхаў гатэлю "Мінск", у якім звычайна пасяляюць замежных турыстаў, – піша А. Шыфрын, – вы можаце пабачыць панурыя сьцены й будынкі т. зв. "Старой турмы", якая знаходзіцца на вуліцы Валадарскага. 3000 вязьняў марнеюць там у сьмярдзючых і цесных умовах, вечна галадаючы. Вам скажуць, што там сядзяць звычайныя злачынцы. Ня верце таму! Гэтая ўстанова мае спэцыяльны будынак для 500-600 палітычных зьняволеных. Але гэта толькі пачатак. Ад гатэлю "Мінск" ідзеце па Ленінскім Праспэкце, пакуль ня дойдзеце да вуліцы Валадарскага й перайдзіце на другі бок. На рагу вуліцы Ўрыцкага вы пабачыце вялічэзны будынак спэцыяльнай вязьніцы КДБ. У ім знаходзяцца таксама ўстановы Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі Беларускай ССР. Гэтую турму часта называюць "унутранай турмой". У ёй больш за 1000 зьняволеных з усёй Беларусі. Сярод іх ёсьць іншадумцы, якія заклікалі да ўвядзеньня дэмакратыі ў Савецкім Саюзе, студэнты, ***якія раськідалі лістоўкі, дамагаючыся незалежнасьці Беларусі і яе адзьдзяленьня ад СССР*** (падкрэсьлена намі), а таксама сябры розных рэлігійных групаў, такіх як баптысты, сьветкі Яговы, адвэнтысты Сёмага Дня й пяцідзясятнікі.

Калі-б вы йшлі ці ехалі па вуліцы Ўрыцкага ў кірунку Юбілейнай Плошчы, – працягвае аўтар, – там, дзе знаходзіцца помнік ахвярам жыдоўскага Гетто, затым па Рэспубліканскай вуліцы, вы дойдзеце да мосту, які перасякае чыгуначныя рэйкі. З мосту, направа, побач з чыгункай, вы пабачыце вялізарны лягер прымусовай працы, дзе больш за 3000 вязьненых жанчынаў працуе на хвабрыцы мэблі. Аўтобусны прыпынак называецца "Пратэзны завод"...

Вялізны лягер строгага рэжыму для жанчын, – заканчвае Шыфрын, – распаложаны на правым баку аўтастрады Менск - Магілёў. Налева вы пабачыце дамы Паўночна-Заходняга Пасёлку. Вось-жа недалёка ад іх знаходзіцца лягер прымусовай працы для мужчын, якія вымушаныя працаваць на аўтамабільным заводзе".

33 турмы й лягеры прымусовай працы, дзясяткі тысяч зьняволеных, між імі шмат іншадумцаў, якія там сядзяць за палітычныя й рэлігійныя погляды, мужчыны, жанчыны й дзеці, інтэлігенты, работнікі, сяляне, студэнты. Вось беларускі "Архіпэляг Гулаг"! Лічба гэта адносіцца толькі да БССР. Але-ж БССР – толькі частка этнаграфічнай Беларусі. Ды ня ўсе Беларусы сядзяць у турмах і канцлягерах аднае толькі БССР. Іх сустрэнеш і ў Варкуце, і на Салаўках, на Калыме і ў Нарыльску, не гаворачы ўжо пра турмы і лягеры прымусовай працы, што на беларускай этнаграфічнай тэрыторыі: Паўднёвая Пскоўшчына (Себеж, Ідрыца, Невель), Смаленшчына (Смаленск, Вяліж, Рудня, Сычоўка, Дарагабуж, Ельня), Заходняя Браншчына (Сураж, Клінцы, Старадуб), Віленшчына...

У сувязі з працай А. Шыфрына, ня лішнім будзе згадаць нядаўнае дасьледваньне савецкай сыстэмы лягераў прымусовай працы, праведзенае Цантральным Разьведвальным Упраўленьнем ЗША. Дасьледваньне гэтае было апублікаванае летась у лістападзе (5). Гэта першае паведамленьне амэрыканскага ўраду пра сыстэму савецкіх лягераў прымусовай працы. Праўда, у 1974 г. газэта "Нью Ёрк Таймс" апублікавала сваё дасьледваньне гэтага пытаньня ў сувязі з выхадам кнігі Ал. Салжаніцына "Архіпэляг Гулаг", у якой апісвалася сыстэма савецкіх канцлягераў пры Леніне й Сталіне. У дасьледваньні "Нью Ёрк Таймс" гаварылася, што ЦРУ ЗША лічыла, што ў 1974 г. колькасьць зьняволеных у савецкіх канцлягерах складала ад 2 400 000 да 2 500 000 чалавек.

Лікі з новага дасьледваньня ЦРУ супадаюць зь лікамі ЦРУ з 1974 г. У новым дасьледваньні гаворыцца, што цяпер у зьняволеньні ёсьць каля 2 міліёнаў савецкіх грамадзянаў, 85% зь іх у канцлягерах, а рэшта ў турмах. ЦРУ цтвердзіць, што ў СССР ёсьць цяпер больш як 1 100 такіх лягераў. У 1974 г., паводля падлікаў заходніх экспартаў, такіх лягераў было 900. (Паводля А. Шыфрына, у 1980 г., як мы бачылі, было 1976.)

Лічба "чатыры мільёны" асобаў, занятых у СССР прымусовай працай, вызначаная на аснове таго, што сюды ўлічана і 1 500 000 савецкіх грамадзян, якія былі засуджаныя за розныя злачынствы й маглі быць накіраваныя на прымусовую працу далей ад месца іхнага жыхарства. Іншага паўмільёна савецкіх грамадзян складаюць асобы, якія былі ўмоўна вызваленыя ад зьняволеньня датэрмінова, але якія прымушаныя выконваць прымусовую працу на працягу рэшты тэрмінаў іхных прысудаў.

У дасьледваньні ЦРУ адзначаецца, што ў часы Сталіна колькасьць зьняволеных у канцлягерах СССР дасягнула найвышэйшага ўзроўню ў 1947 г., калі зьняволеных налічвалася каля 15 мільёнаў. У 1953 г., пасьля сьмерці Сталіна, колькасьць зьняволеных значна зьменшылася, але яна пачала зноў павялічвацца ў 60-х гадох і, мяркуючы паводля працы А. Шыфрына, яна ўсьцяж расьце.

### САВЕЦКАЯ ПРЫЗЫЎНАЯ СЫСТЭМА
*(Заканчэньне. Пачатак гл. у № 1(29)*

У ваенкаматах ніколі не гавораць, куды людзі высылаюцца. Гэта становіцца зразумелым толькі пасьля прыбыцьця ў адзінку прызначэньня. Загады аб разьмяркаваньні так засакрэчаныя, што навет па знаёмству нельга пазнаёміцца зь іхным зьместам. Навет сяржантам, якія суправаджаюць прадстаўнікоў вайсковых адзінак – афіцэраў, забаронена выяўляць месца прызначэньня. Прычына? Вось-жа былі выпадкі, калі людзі, даведаўшыся, куды іх вязуць, выскаківалі зь цягнікоў. Асабліва, калі ім пагражала пэрспэктыва службы далёка ад дому.

Цікава адзначыць, што Славянаў прызываюць на службу ў 19-гадовым веку. Неславянам удаецца часам адкласьці прызыў у армію на тры, або й пяць гадоў.

Вялікім попытам між навабранцаў карыстаюцца людзі рэдкіх, прэстыжовых для войска спэцыяльнасьцяў: спартсмэны, музыканты, артысты. Наагул-жа, з грашмі можна шмат чаго дамагчыся. Тое самае, калі маеш сувязі ў партыйным апараце раёну ці рэспублікі. Варта бацьком даць хабар афіцэру ваенкамату або камусьці, хто стаіць вышэй яго, як сына прызначаць на службу пры штабе. Падкупіць у ваенкамаце можна каго хочаце, але трэба ведаць каму "даць у лапу".

Галоўны прынцып разьмяшчэньня навабранцаў – экстратэрытарыяльны: чым далей іх ад дому, вонках свае рэспублікі. Мэта – ізаляцыя ад мясцовага насельніцтва. Каб у выпадку якога палітычнага крызісу не далучыліся да мясцовага жыхарства й ня выступілі супраць уладаў. Выняткам ёсьць будаўнічыя батальёны, у якіх служаць мясцовыя. Вось чаму няма цяпер у Савецкім Саюзе вайсковых адзінак нацыянальнага характару.

Аўтары працы "Этнічны фактар..." адзначаюць, што прынцып разьмяркаваньня навабранцаў асабліва старанна захоўваецца ў адзінках з паліцыйнымі функцыямі. Нутраныя войскі падпарадкаваныя міністэрству нутраных справаў. Усе апытаныя ў адзін голас сьветчылі, што ў такіх войсках ня знойдзеш ніводнага зь мясцовых жыхароў, дзе стаіць адзьдзел.

Тое-ж самае можна сказаць і аб пагранічных войсках, у якіх галоўным чынам служаць Расейцы, Украінцы й Беларусы, прычым навет Украінцаў і Беларусаў ня высылаюць на межы сваіх рэспублікаў, а пераважна на Далёкі Ўсход, Расейцаў-жа на заходнія межы. Латышом, Лятувісам і Эстонцам не давяраюць наагул і ў пагранічных войсках іх няма.

Цікавыя таксама выказваньні адносна нацыянальнага складу вайсковых адзінак за межамі СССР. Гэтак у войсках, што ўва Ўсходняй Эўропе знойдзеце сялянскіх юнакоў з Калінінскай, Яраслаўскай і Тульскай вобласьцяў РСФСР. Трапляюцца таксама Украінцы й Беларусы, а іншых нацыянальнасьцяў мала.

Пры наборы людзей у жалезнадарожныя войскі ёсьць такое выключэньне як і ў будаўнічых адзьдзелах, пры небаявым, амаль што мірным характары службы гэта ня мае значэньня.

Уімбуш і Аляксееў даюць яшчэ адно, на нашу думку, вельмі важнае выключэньне – у выпадку агульнай мабілізацыі. Многія савецкія дывізіі, што знаходзяцца на тэрыторыі самога СССР, укамплетаваныя ня поўнасьцю. У выпадку мабілізацыі прысылаць навабранцаў здалёку ня будзе калі. Давядзецца браць мясцовых. Гэтак было спачатку ў савецкай акупацыйнай арміі ў Афганістане. Яе дывізіі насьпех папоўнілі ўраджэнцамі Сярэдняе Азіі. Толькі пазьней, калі апошнія аказаліся ненадзейнымі, іх пачалі замяняць жаўнерамі з эўрапэйскае СССР, у тым ліку й Беларусамі.

На заканчэньне трэба сказаць пра склад нутраное бясьпекі. Адзьдзелы гэтых войскаў звычайна разьмешчаныя ў кажным зь менш-больш буйных гарадоў. Большасьць адзінак нутраных войскаў – мотастралковыя. У буйных гарадох МУС мае да дыспазыцыі й танкавыя часьці.

Апроч забясьпечаньня нутраной бясьпекі і ўтрыманьня палітычнага ладу, нутраныя войскі ахоўваюць вялізарную сетку турмаў і канцлягераў. Як і ў будаўнічых войсках, у нутраных войсках ёсьць высокі працэнт тэрміноваслужачых, а таксама выхадцаў з малых народаў, асабліва зь ліку сярэдняазіяцкіх. Іх звычайна пасылаюць ахоўнікамі ў турмы й канцлягеры. Робіцца гэта сьведама, для палепшаньня кантролі. Хоць яны й слаба гавораць парасейску, але надта старанна выконваюць свой службовы абавязак. Іхныя адносіны да зьняволеных ёсьць бязьлітаснымі й жорсткімі, асабліва ў дачыненьні да Расейцаў.

Ня менш цікавае пытаньне камплетаваньня афіцэрскіх і падафіцэрскіх кадраў, іх нацыянальны склад, палітыка камплетаваньня ваенных школаў. Дзеля вялікага значэньня гэтага пытаньня, ім неабходна заняцца асобна. Адзначым толькі, што, як паказвае манаграфія РАНД Корпорэйшан, сярод кадравых афіцэраў пераважаюць Расейцы (80%), а сярод падафіцэраў – Украінцы, асабліва высокі працэнт іх з Усходняе Украіны.

*В. Сянькевіч*

************************************************

Якая-ж лічба гэтае агульнае колькасьці прыпадала й прыпадае на Беларусаў? Адказ знайсьці няцяжка: у 1947 годзе зьняволеных Беларусаў налічвалася прынамся 600 000 (4% ад усяе колькасьці), цяпер – каля 160 000 з агульнае лічбы "чатырох мільёнаў" асобаў, занятых у Савецкім Саюзе прымусовай працай.

*ЗНОСКІ:*

1. Avraham Shifrin: The First Guidebook to Prisons and Concentration Camps of the Soviet Union, 391 p.
2. Stephanus Edition Verlags GMBH.
3. Bantam Books, 666 Fifth Ave., New York, 10103
4. The Research Center for Prisons, Psychoprisons, and Forced-Labour Camps of the USSR.
5. The New York Times, 7. XI. 1982.

*Язэп Барэйка*

************************************************

*ЗЛАЖЫ АХВЯРУ НА "ЗВАЖАЙ"*

## *ПАМЕРЛЫ Й ПАЦЬМЯНЕЛЫ*

Сто год назад памёр той, каму лепш было-б не радзіцца. Лепш было-б для сьвету й яго самога. Бо сьвет бяз Маркса (і яго прадаўжальнікаў) мог быць крыху шчасьлівейшы, чым цяпер ёсьць – хоць гэта й слабы шанс. А сам Маркс, безь ягонага "зьяўленьня ў сьвет", ня даў-бы нам – грэшным – лішняга пацьверджаньня таго, што "добрымі намерамі дарога ў пекла вымашчана"

Якраз так! Тварэц мары пра зямны рай нарыхтаваў глебу для кашмарнага пекла камуністычных дыктатур. Выкрывальнік буржуазнага "капіталу" даў тэарытычнае прыкрыцьцё для найгоршых капіталістаў на зямлі – прадстаўнікоў "новае клясы" (згодна Джыляса). На чалавека, які сказаў: "Ня можа быць вольным народ, які няволіць іншыя народы", сяньня паклікаюцца ўсе тыя, хто душыць свабоду Палякаў і Мадзяраў, Украінцаў і Беларусаў, Кубінцаў і Кампучыйцаў. Усё ідзе "згодна Маркса" й ... насуперак Марксу.

Гэта адзін з найбольш тыповых парадоксаў гісторыі.Ператварэньне мары, рашчыненай на чалавечай крыві, у крывавы кашмар, калі астаецца толькі марыць пра яго канец. Праславутая "тэорыя клясавае барацьбы" нарадзіла больш людзкіх ахвяраў, чымся, выглядае, усе войны гісторыі разам узятыя. Ці хацеў гэтага сам Маркс? Магчыма, што не, але гэта слабая пацеха.




*У Лёндане, на могільніку Гайгэйт, група верных ушаноўвае сотыя ўгодкі сьмерці чалавека, за ажыцьцяўленьне тэорыяў якога вымардавана больш людзей, чым за ўсе войны ў гісторыі.*

*Здымка "Тайм", 28.3.83*

Аднойчы Гэрбэрт Уэлс сказаў пра славутую бараду Маркса: такая барада сама сабой не расьце: яе спэцыяльна няньчуць і песьцяць, каб яе ганарліва задзіраць над сьветам. Сяньня марксізм – гэта хвальшывая барада камунізму. На здымцы з журналу "Тайм" мы бачым сымбалічную сцэну "памінак" падчас стогадовага юбілею памерлага Маркса пры яго магіле на могілках Гайгэйт у Лёндане. Пад гранітнай барадой стаіць адзін з найбольш тыповых вонкава сучасных "марксістаў" (паводля Орвэла), з паперкі чытае стандартны набор нагнаўшых аскому фразаў. Пра што яны, гэныя фразы? Няцяжка дагадацца...

Цяперашні савецкі правадыр Юры Андропаў, у артыкуле, прысьвечаным Марксу, ухітрыўся назваць таго вялікім "практычным рэвалюцыянерам". Кажны, хто ведае біяграфію Маркса, скажа, што гэта недарэчнасьць: аўтар "Капіталу" пражыў усё жыцьцё кабінетным тэарэтыкам, ні ў чым *практычна* не бяручы ўдзелу. (Навет спрэчкі Маркса з Бакуніным ці Прудонам усётакі ня тое самае, што забойства Троцкага альпэнштокам або маоісцкі тэрор).

І ўсё-ж у недарэчнасьці Андропава ёсьць свая лёгіка: як-бы зрываючы марксісцкую бараду тэорытычнасьці, яна агаляе лупаты твар цяперашняй савецкай (і наагул камуністычнай) "практыкі". Ведама, што некалі Маркс, прачытаўшы пісаніну некаторых сваіх "вучняў", усклікнуў: "Я, бязумоўна, Маркс, але я *не* марксіст!" Лёгка ўявіць, што-бы ён сказаў, калі-б давялося яму цяпер прачытаць артыкул Андропава, што разглядае яго з пункту гледжаньня савецкага практыцызму! Зрэшты, крамлёўскіх верхаводаў гэта не хвалюе: ім важна ня тое, каб Андропаў быў марксістам, а каб мёртвы Маркс быў жывым андропаўцам. Гэта больш пэрспэктыўна...

Агульна-ж, стагодзьдзе з дня сьмерці Маркса камуністы адзначылі скромна. Спусьцілі на тармазах, так сказаць. Хваліцца яны, як ведама, умеюць, ды хваліцца няма чым. Іхны *галоўнабароды* прарок усё часьцей выглядае ня надта выгадным сымбалем. Дэградуючы камунізм пад маскай "пераможнага марксізму" – гэткі вынік стагодзьдзя, што прайшло пад знакам росту нагпага камуністычнага імпэрыялізму й правалу камуністычнае мары "згодна Маркса". Таму "памерлы й пацьмянелы" апостал з могільніку Гайгэйт правамерна аддаляецца ў змрокі гісторыі. У гэтым ёсьць свой драматызм і свой камічны бок. Шкадаваць няма чаго... Запраўды, **sic transit gloria mundi** – так праходзіць зямная слава.

*А. Гідоні*

В. Сянькевіч

## ДА ПЫТАНЬНЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ВАЕННАЙ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Палітычныя абставіны на нашай Бацькаўшчыне ў мінулым стагодзьдзі, калі буйна разьвівалася ў сьвеце гістарычная навука, спрычыніліся да таго, што беларускі народ ня вылучыў із свайго асяродзьдзя гісторыкаў, якія маглі-б стварыць беларускую нацыянальную гістарычную навуку наагул, а ваенную гісторыяграфію ў прыватнасьці. Тыя-ж гісторыкі, што зьявіліся, хаця й займаліся мінулым свае краіны, у сілу існуючых умоваў звычайна далучаліся да гістарычных школаў нашых суседзяў, трымаліся іхных плыняў і палітычных напрамкаў.

Хуткае разьвіцьцё беларускага нацыянальнага адраджэньня ў канцы XIX – пачатку XX ст. ст. стала аднак прычынай таго, што некаторыя зь іх, асабліва тыя, што раней належалі да гістарычнае школы т. зв. "заходне-руссізма", якая старалася давесьці, што беларускі народ – неадлучная частка Маскоўшчыны і што наша гісторыя – частка "русской" гісторыі, урэшце пачалі пераходзіць на беларускія незалежніцкія пазыцыі.

Разьвіцьцё беларускай нацыянальнай гісторыяграфіі пачынаецца ў нашаніўскую пару, з выхадам у сьвет у 1910 г. працы Вацлава Ластоўскага "Кароткая Гісторыя Беларусі". Яно атрымоўвае моцны штуршок у 1918

**************************************************

г. з абвешчаньнем незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Ужо ў 1919 годзе выдатны беларускі гісторык, прафэсар Мітрафан Доўнар-Запольскі выдае ў Горадні невялічкую працу пад загалоўкам "Асновы дзяржаўнасьці Беларусі", у якой кладзе запраўдныя фундаманты сынтэзы беларускай гісторыі й выводзіць асновы ейнай будучай структуры.

Хутка пасьля гэтага, у пачатку 20-х гадоў, у БССР паўстае беларуская гістарычная школа, ачольваная тым-жа праф. Доўнар-Запольскім, ды прафэсарамі Ўсеваладам Ігнатоўскім, Уладзімерам Пічэтам і Вацлавам Ластоўскім, школа, якая, зыходзячы з прынцыпу гістарычна-нацыянальнай самабытнасьці нашага народу, падрыхтоўвае шэраг працаў, у якіх паказвае незалежнае дзяржаўнае жыцьцё беларускага народу ў мінулым.

Аднак разгорнутая дзейнасьць беларускіх навукоўцаў і шпаркае разьвіцьцё маладой беларускай гісторыяграфіі былі хутка спыненыя партыйным кіраўніцтвам, якое пабачыла ў гэтым вялікую небясьпеку. Масква запалохалася незалежніцкай беларускай гістарычнай навукай і пастанавіла зьнішчыць яе ў зародку. Праф. Доўнар-Запольскі быў высланы ў Маскву, акадэмікі Пічэта й Ластоўскі арыштаваныя, праф. Усевалад Ігнатоўскі скончыў сваё жыцьцё самагубствам. Падобны лёс сустрэў і іншых беларускіх гісторыкаў і архэолягаў. Іхныя працы былі забароненыя й зьнішчаныя.

Такім чынам беларуская нацыянальная гісторыяграфія была зьліквідаваная ў завязі. На гістарычным фронце наступіў поўны застой, а пасьля прыйшла казёншчына. Кампартыя пачала выкарыстоўваць гісторыяграфію для сваіх палітычных мэтаў. Беларускія гісторыкі былі змушаныя прытрымлівацца канцэпцыяў пра гістарычнае мінулае беларускага народу накінутых Масквою і служыць вылучна партыйнай ідэялёгіі.

У пытаньнях паходжаньня нашага народу яны мусілі даводзіць адзінства паходжаньня і агульнасьць лёсаў расейскага, украінскага й беларускага народаў, нібыта супольнае змаганьне іх супраць нутраных і чужаземных панявольнікаў. На загад партыі беларускія гісторыкі павінны насьвятляць гісторыю Беларусі на фоне агульнарасейскіх падзеяў, паказваючы Кіеўскую Русь як калыску трох "зродненых" усходня-славянскіх народнасьцяў ды паказваць Беларусаў як народ "безьдзяржаўны".

Што-ж адносіцца да залатой пары ў нашай гісторыі — пары Вялікага Княства Літоўскага, — дык беларускія савецкія гісторыкі змушаныя былі выкрыўляць гістарычную праўду, паказваючы гэты пэрыяд так, што нібыта беларускі народ на шматлікія стагодзьдзі быў адарваным ад "адзінакроўнага брацкага расейскага народу" й падпаў пад "бязьмежную паншчынную эксплятацыю, палітычнае бяспраўе й нацыянальна-рэлігійнае прыгнечаньне", якія "падымалі беларускі народ на змаганьне супраць польска-літоўскіх феадалаў за сваё сацыяльна-нацыянальнае вызваленьне ды за ўзьяднаньне ў адзіным рускім гаспадарстве".

А захоп Беларусі ў XVIII ст. яны павінны былі разглядаць як дадатную зьяву, даводзячы, што рост расейскай дзяржавы й г. зв. "узмацненьне дружбы трох братніх народаў" прывялі да ажыцьцяўленьня надзеяў і імкненьняў беларускага народу. Яны павінны даводзіць, што гэта "ўзьяднаньне" з Расеяй мела "вялізарнае прагрэсыўнае значэньне для разьвіцьця вытворчых сілаў і культуры нашага народу". Інакш кажучы, што беларускі народ, "адарваны літоўскімі заваявальнікамі", толькі і імкнуўся на працягу ўсяго свайго існаваньня да зьліцьця з Масквою.

Пасьля сьмерці Сталіна зьявілася тэндэнцыя да перагляду дасюлешніх канцэпцыяў пра гісторыю Беларусі. Недарэчнасьць і тэндэнцыйнасьць агульнай афіцыйнай канцэпцыі пра гісторыю беларускага народу, што перакрэсьлівала некалькі стагодзьдзяў нашай гісторыі і паказвала нас народам безьдзяржаўным у мінулым, настолькі відавочная, што беларускія вучоныя вымушаныя былі зарэагаваць, асуджаючы яе як аднабаковую, устарэлую й павярхоўную. Адначасна яны пачалі ставіць дамаганьні аб радыкальным пераглядзе поглядаў на ключовыя мамэнты нашай гісторыі.

Спачатку яны выступілі за перагляд афіцыйнай савецкай канцэпцыі адносна культурнага разьвіцьця беларускага народу. Як ведама, паводля цьверджаньняў савецкай гістарыяграфіі, беларускі народ быццам бы ня меў свае самабытнае культуры ў мінулым і ў сваім культурным разьвіцьці цалкам залежаў спачатку ад Кіеву, а пазьней ад Масквы. Беларускія вучоныя прыйшлі аднак да высnаву, што ўсё было наадварот, асабліва калі гутарка йдзе пра 16 17 ст. ст.

У сувязі з гэтай канцэпцыяй былі высунутыя дамаганьні аб пераглядзе цьверджаньняў савецкай гістарычнай навукі пра тое, што беларускі народ, моўна й наагул нацыянальна пачаў выдзяляцца быццам-бы адно ў 14-15 ст. ст., г. зн. пасьля распаду "Старажытнарускай дзяржавы" і нібыта ва ўмовах чужацкага, літоўскага, паняволеньня. Беларускія вучоныя зьвярнулі ўвагу на наіўнасьць і неабгрунтаванасьць падобных цьверджаньняў, даказваючы, што фармаваньне беларускае нацыі й мовы пачалося на шмат стагодзьдзяў раней, у пэрыяд існаваньня незалежных беларускіх княстваў, асабліва-ж Полацкага. Адначасна яны запратэставалі супраць нахілаў называць беларускую мову эпохі ВКЛ, мовай "заходнярускай" або проста "рускай мовай".

Усьлед за гэтым пасыпаліся дамаганьні пра перагляд і іншых канцэпцыяў пра гісторыю Беларусі. На парадак дня былі пастаўлены такія ключовыя рэчы, як пытаньне нацыянальнага характару ВКЛ і зьвязанае з тым пытаньне беларускае дзяржаўнасьці ў мінулым, пытаньне царкоўнае вуніі і вуніяцтва на Беларусі, пытаньне ўплыву заходняе культуры на Беларусі й шмат іншых.

Каб падвесьці пад афіцыйную канцэпцыю пра "безьдзяржаўнасьць" беларускага народу і ягоную "гістарычна-нацыянальную супольнасьць" з народам расейскім, савецкая гістарычная навука адабрала ад нас увесь літоўскі пэрыяд і прыпісала яго цалкам сяньняшнай Летуве. Бачачы гэта, беларускія гісторыкі зьвярнуліся да гістарычных крыніцаў і даказалі, што гэта няпраўда, што ў запраўднасьці беларуская дзяржаўнасьць зарадзілася ў Полацкім княстве.

Што-ж да нацыянальнага характару ВКЛ, дык яно было дзяржавай беларускай, бо ўзьнікла на беларускіх землях, дзяржаўнай мовай мела беларускую, а эканамічную, палітычную і *ваенную сілу* гэтай дзяржаве давалі землі беларускія. Такім чынам нашыя гісторыкі паказалі на недарэчнасьць цьверджаньняў афіцыйнай гістарыяграфіі, якая ў Вялікім Княстве Літоўскім бачыць сучасную савецкую Літву.

Разам з гэтым беларускія гісторыкі адкінулі таксама канцэпцыю, паводля якой Масква была нібыта той сілай, што несла нашаму народу сацыяльнае й нацыянальнае вызваленьне. Яны падкрэсьлілі факт, што беларускаму народу, які быў вольным у сваей уласнай дзяржаве — ВКЛ, ня было патрэбы шукаць ніякага вызваленьня з боку Масквы. Адносна-ж сацыяльнага вызваленьня, дык беларускія вучоныя слушна выявілі абсурд цьверджаньняў савецкай гістарыяграфіі аб тым, што яно магло прыйсьці з Маскоўшчыны, дзе палажэньне сялян было некалькі разоў горшае, чымся ў Літве.

Выступілі нашыя гісторыкі й супраць канцэпцыі пра заваёвы беларускіх земляў "літоўскімі феадаламі", г. зн. пра існаваньне фактару насільля пры ўтварэньні ВКЛ. Як ведама, савецкая гістарыяграфія тлумачыла да гэтага часу стварэньне на беларускіх землях магутнае дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага вось як: "літоўскія феадалы, маўляў, узялі і ўключылі ў склад дзяржавы заходнярускія землі, на якіх яны потым занялі пануючае становішча".

Беларускія-ж вучоныя адкінулі гэтае цьверджаньне, кажучы, што "Вялікае Княства Літоўскае сваім этнаграфічным складам і тэрытарыяльным прынцыпам было больш беларускай дзяржавай чым літоўскай" і што "да гэтага прыняло і павінна было прывесьці гістарычнае разьвіцьцё закладзенага яшчэ Міндоўгам "ядра будучай дзяржавы", якое, як кажнаму ведама, узьнікла на беларускай этнаграфічнай тэрыторыі, дакладней, у беларускай Наднёманшчыне із сталіцай у Навагрудку.

У сваіх дамаганьнях перагляду стаўленьня да гісторыі нашага народу, беларускія гісторыкі не абмінулі і аднэй із самых складаных зьяваў — царкоўнай вуніі 1596 г. Яны дамагаліся больш аб'ектыўнага падыходу да гэтага пытаньня, бо на іхную думку ня ўсё ў вуніі было "ганебнае", "антынароднае" і "адмоўнае", а што яна заключала ў сабе шмат добрага й станоўчага.

Не засталося збоку і пытаньне ўплыву заходняе культуры на Беларусі й адмоўнай ролі маскоўскага праваслаўя на яе пранікненьне ў краіны славянскага Ўсходу. Беларускія вучоныя выступілі супраць тых, якія "няздольныя зразумець, што ня ўсё тое, што зьвязана зь дзейнасьцю расейскіх цароў і праваслаўнай царквы, было прагрэсыўнае, а ўсё тое, што "пранікала з краін Заходняй Эўропы і навет славянскай Польшчы" было варожым і адмоўным. Яны супрацьставіліся ідэалізацыі маскоўскіх цароў і праваслаўя, акрэсьліваючы яго "рэакцыйнай сілай, якая перашкаджала пранікненьню сьвецкіх навук і перадавых поглядаў".

Як і трэба было спадзявацца, партыйныя дагматыкі адразу зашумелі й пачалі весьці зацятае змаганьне супраць усялякіх спробаў перагляду беларускай гісторыі. Яны ўвесь час стараліся (і намагаюцца) накінуць прынцып партыйнасьці ў гістарыяграфіі, змушаючы гісторыкаў бараніць інтарэсы партыі й савецкае дзяржавы. Яны-б хацелі, каб беларускія гісторыкі й надалей нівэлявалі гісторыю беларускага народу на карысьць расейскага ды даводзілі, што расейскі народ — вядучая сусьветная нацыя, ідэалізуючы ягоную гісторыю ды даказваючы, што беларускі народ быў безьдзяржаўным у мінулым і што ён атрымаў сваю дзяржаўнасьць адно ў выніку кастрычніцкага перавароту.

Ня гледзячы аднак на гэтыя спробы кампартыі й ейных падхалімаў ды ўсякіх перашкодаў з боку выдавецтваў рэспублікі, якія адмаўляюцца выдаваць аб'ектыўныя працы й матар'ялы беларускіх дасьледнікаў пра нашую мінуўшчыну і бяручы пад увагу наагул абставіны, у якіх нашыя гісторыкі павінны працаваць, яны ўсё-такі зрабілі шмат.

Дзякуючы іхным намаганьням, антыбеларускія канцэпцыі афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі або непазнавальна зьмякчэлі, або наагул былі адкінутыя. Прычым гэты працэс ачышчэньня гісторыі Беларусі ад крайніх антыбеларускіх канцэпцыяў працягваецца. Ён ахоплівае што раз больш шырокую тэматыку, закранаючы навет такія канцэпцыі, як канцэпцыя, паводля якой Беларуская ССР была створаная выключна дзякуючы нацыянальнай палітыцы бальшавікоў і асабіста Леніна, або канцэпцыю пра самабытны беларускі нацыянальна-адраджэнскі рух, які ў савецкай гістарыяграфіі дасюль цалкам замоўчваўся. Мала гэтага, ён спрычыніўся да росту зацікаўленасьці да мінулага беларускага народу, да ўзьнікненьня працэсу ўсебаковага беларускага нацыянальнага адраджэньня, які назіраецца ўва ўсіх галінах беларускага нацыянальнага жыцьця.

*(Працяг будзе)*

**************************************************

## ЗЬ ГІСТОРЫІ ВЭТЭРАНСКІХ СЬЦЯГОЎ

(Успаміны вэтэрана)

Канец Другой сусьветнай вайны застаў мяне ў ангельскай зоне Нямеччыны. Пры сабе меў я малую валізку, а ў ёй гісторыю і геаграфію Беларусі, беларускі сьцяг, значок і вялікі партрэт пагоні, вышываную нацыянальную кашулю й пояс, свае здымкі й чырвоны матар'ял, думаючы, што можа спатрэбіцца. Яно так і сталася.

Зь места Любэкі пераехаў я ў беларускі абоз Ватэнштэт. Тут спаткаўся зь беларускімі патрыётамі, якія зьбіраліся заснаваць нейкі камітэт помачы нашым эмігрантам. Для так урачыстае справы я выняў із свае валізкі беларускі сьцяг і пагоню й павесіў іх на сьцяне. Прысутным гэта надзвычайна спадабалася. Пасьля пагоню й сьцяг я ім пакінуў, а сам пераехаў у амэрыканскую зону ў Рэгэнсбург.

Тут арганізаваліся беларускія скаўты й патрэбны ім быў свой сьцяг, бо ўсе іншыя нацыянальныя групы мелі сьцягі й бедны кіраўнік Кірылік быў вельмі заклапочаны. Я даў чырвоны матар'ял, а. Лапіцкі ахвяраваў белы й яго матушка пашыла сьцяг. Навіной было тое, што з аднаго боку быў нашыты назоў "Беларусь", а зь іншага — "Крывія". Гэта спрычынілася да таго, што нясьведамыя людзі пачалі пытацца: — Хто мы, Беларусы ці Крывічы?

Беларускія вэтэраны таксама захацелі мець свой сьцяг і я зрабіў і для іх. Тады нашы скаўты й вэтэраны былі пад адным кіраўніцтвам і сьцягам. Падзел пачаўся пазьней. Нас улады УНРА перавезьлі ў вёску Міхэльсдорф, а там падзяліліся на Беларусаў і Крывічоў. Прыхільнікаў крывіцкага назову перавезьлі ў лягер Віндзішбэргердорф, блізу чэскай мяжы. У Міхэльсдорфе асталіся сьцягі скаўтаў і вэтэранаў, тут-жа быў і ген. Ф. Кушаль. Тады кіраўніком скаўтаў стаўся настаўнік

# Millenium of Captive Byelorussia ignored



— *K. Akula* —

The above picture represents a reproduction of the clandestine commemorative postcard of Byelorussian emblem to mark 1,000 years of Byelorussian history. The millenium of that, presently tortured, nation was ignored by Moscow and Miensk Gulag masters, but was celebrated widely throughout the Free World by Byelorussian emigres.

Metamorphosis of Byelorussia from 1,000 years ago to the present—from the state of Polatzak, Krivia, through Litva, to present captive of Moscow named Byelorussia, would make a rewarding study for any would-be-discoverer of East European history.

To the detriment of peace, security and happiness of multiple generations, history was always rewritten by victors, most of whom never followed Napoleon, known for his magnanimity. Gulag masters and their tzarist predecessors produced their own version of East European history, where the truth was largely obliterated and subjected to Russian imperial interests. Thus any discoverer of Byelorussia, for instance, would encounter an uneasy task, searching for roots of that nation.

Every March, on the 25th day, Byelorussians in the Free World celebrate the proclamation of their independent state—Byelorussian Democratic Republic—in 1918. the very next year Moscow Gulag masters invaded the country, at that time of about 18 million people, equal to Poland in ethnographic territory, and after considerable spilling of blood, defeated the young republic.

If Wayne Gretzky told you he is of Byelorussian origin (which he partly is), you would immediately take notice. If a mortal of lesser importance (like myself) declared the same, you would ignore him, or retort with: Who gives damn what kind of Russian you are?

Truly: why blame any Canadian that he knows little about the real Ukraine, or Byelorussia, or Lithuania, Estonia, Latvia, Cossackia or Georgia? In the scant attention that Canadian educational unwieldy octopus gives to Eastern Europe, our children are being fed Moscow-manufactured crap, completely bypassing the other side, that of the captive nations...

In 1950 I decided to submit declaration of intention to become a Canadian citizen. I had been in Canada for three years, and already, at the time, had a right to make the first step to become a Canadian citizen. But at Toronto City Hall, where an appropriate official form was filled up with my personal data, the lady was puzzled when I told her I have been born Byelorussian. She suggested I could be Polish or Russian, but what kind of Russian did you say? We have never heard. It did not help explaining to her that Byelorussia SSR (that is my former homeland in its present Moscow-subjugated form) was one of the founders of the United Nations, recognized by Canada. The stubborn city hall bureaucrat appeared totally adamant: Russian or Polish, or...I was deeply hurt. I spat on Canadian citizenship. Four years later I have tried again, encountered something similar, but was able to convince Ottawa that Byelorussia does exist. Few more of my former countrymen were not so lucky, they simply rejected Canadian citizenship, refusing to be labeled Polish or Russian.

You may ask why is it so important to us to assert our origins in this new and free country. In spite of all the detractors, Byelorussia has been around for more than a millenium; she represents our roots, culture, tradition, dignity, humanity. We can contribute to our new homeland only when we respect the old one, when we can share with others what we have achieved. In spite of Trudeau and his greedy politicians, in spite of their official vote-gathering ethnic mosaic approach, Canada needs a genuine cooperation between its diversified peoples and races. This genuine cooperation could be built on sharing, on exchange of our cultural treasures...and many other things....

To Byelorussians March is a resurrection of their over-millenium old spirit, of their old historical adage—we shall never submit to evil! God is with us! Freedom will be ours!

*****************************************************

абознае школы А. Асіпчык, а кіраўніком вэтэранаў быў лейт. Д. Клінцэвіч, камандант лягернае паліцыі.

Зноў давялося мне шыць і вышываць сьцягі для скаўтаў і вэтэранаў. У "Зважай" № 1(29) сп. С. Гутырчык гаворыць пра сьцяг зь Віндзішбэргердорфу, які я пашыў на просьбу былога слуцкага паўстанца сп. Харытончыка.

Яго я ўручыў сьцяжному перад дэфілядай у прысутнасьці ген. Кушаля з жаданьнем, каб некалі, як прыгожа сказана ў "Зважай", пасьля вандровак па чужыне, ён апынуўся ў музэі народнай славы на вольнай Беларусі. Жыве Беларусь!

*А. Асіповіч*

## ПАМЯЦІ АРКАДЗЯ КАЧАНА

Стары кукабара* із поўнаю сілай
Сьмяецца-рагоча над сьвежай магілай.

Якісьці нябожчык спачыў тут учора,
Прыйшоў з-за паўсьвету, спазнаўшы шмат гора.

А дзесьці далёка ў забранай краіне
Заплакала восень па страчаным сыне.

Вясёлкі вясны і запах сенажаці,
І гоман лясоў, песьняў родных багацьце, –

Усё адыйшло із юнацкім імгненьнем,
Насьпелых, нязьдзейсьненных мар-лятуценьняў...

Ішоў час злавесны, ішоў час пануры,
З Усходу й Заходу нахлынулі буры,

І хіжыя варвары ўдужкі ўзяліся,
Край родны ў пажарах вайны папяліўся,

І там, дзе зязюля табе кукавала,
Сабе рыхтавалі Тэўтоны Валгалу**.

"Рабы раскаваныя" перлі з Усходу,
І гібель, і пекла прынесьлі народу.

Прапалі тады твае мары і ўзьлёты
У дымах пажараў ваеннай Галготы.

Радзіма цярпела ў няволі і ў болі
Ад хіжых тыганаў на Марсавым полі.

І ты, ў ліку тысяч яе абаронцаў,
Стараўся здабыць зямлю й волю пад сонцам.

Змагліся, аслаблі, было ўсіх замала,
Калі Беларусь вас на бой заклікала.

На новых і сьвежых яшчэ папялішчах
Варвары з Усходу спраўлялі ігрышча.

Як хочаш адмерай, – з Бабруйска й Нясьвіжа
Далёкім ёсьць шлях да Паўдзённага Крыжа***

Маскаль ладзіў дома свабодзе хаўтуры,
Выгнанца ў чужыне віталі кэнгуры.

Ох, цяжка, як цяжка зусім без натхненьня
Пускаць у зямельку чужую карэньне.

Ты гукаў і клікаў сваіх у грамаду,
Жыцьцё на выгнаньні даводзіў да ладу.

У працы грамадзкай удзел браў сумленна,
Кароткі свой век ты пражыў не дарэмна.

Ты годнасьць і мужнасьць пакінуў у спадак,
Каб браў зь цябе прыклад руплівы нашчадак.

І Богу й народу злажыў ты ахвяру,
Дарма хай рагоча цяпер кукабара.

К. Акула 25.3.1983 г.

---

*/ – аўстралійская птушка, што рагоча.
**/ – у нарманскай міталёгіі месца для гэрояў, што ўпалі ў баёх.
***/ – сузор'е ў хворме крыжа, што відаць з паўдзённай паўкулі. Яно таксама фігуруе на аўстралійскім дзяржаўным сьцягу.

## ХТО ЗААВАНСАВАЎ?

У № 1(29) "Зважай", на бачыне 8-й подпіс пад здымкай "сьцяг трымае палк. С. Гутырчык" выклікаў зусім прадугледжаную рэакцыю ад паважанага намі С. Гутырчыка: "Хто гэта й калі мяне заавансаваў?"

Прабачэньня просім. Ня ведаючы дакладна рангі камандзера Бел. Амэр. Вэтэранаў Усх. Узьбярэжжа, выпадала ўзяць вышэй, бо павышэньне-ж заўсёды лепшае чым дэградацыя. Згода?

************************************************

## *"НА ВУЗКАЙ КЛАДЦЫ"*

Пад такім загалоўкам менская газэта "Літаратура і мастацтва" за 25.2.1983 г. зьмясьціла "невялікі вершаваны твор" Алеся Бажко, які заняў аж цэлыя 3/4 апошняй бачыны газэты. Свой так званы твор Бажко называе гэтак: "устаўка ў дасье містэра Кастуся Акулы, платнага амэрыканскага "вызваліцеля Беларусі". У іншым месцы наш пісьменьнік названы "састарэлым эмерытам". Аўтар цьвердзіць, што гэта толькі "урывак" з таго твору, які ён пра Акулу згарусьціў.

Чаму-ж гэта "роднай партыі" прырупіла папулярызаваць беларускага эміграцыйнага пісьменьніка на паняволенай бацькаўшчыне?

Спадзяемся, што Акула ў свой час адкажа на той "твор" партыйнага цівуна.

************************************************

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 18-га лютага сёлета да 2-га травеня "Зважай" атрымаў наступныя ахвяры й падпіску:

П. Станкевіч – 20 дал., Ч. Найдзюк – 6,00, Э. Пітушка – 5,00. З продажы – 10 дал.

Разам – 41,00 дал.

*За помач вельмі дзякум.*

************************************************

## *ЛІСТ ДА ВАС...*

***Цяжка, відаць, пісаўся гэны ліст старой рукой. Чытаем: "Паведамляю, што я ўжо знаходжуся ў "альтэрс гайме" (доме для старых). Ужо ня мог сабе рады даць. Тут усё маю запэўнена да сьмерці а сваё ашчаднасьці падзяляю сярод тых, хто мне памагаў, і перасылаю 20 даляраў..."***

***Адзінокі, між чужых, на старасьць, наш дарагі суродзіч дзеліцца апошнім, бо ён удзячны й нашаму сьціпламу часопісу, які яго вось ужо доўгія гады рэгулярна наведвае...***

***"Зважай" шчыра ўдзячны сп-ру П. Станкевічу. Жадаем яму добрага адпачынку, здароўя і ставім яго ахвярнасьць у прыклад іншым нашым суродзічам, асабліва-ж разбагацелым, распанелым і скупым...***

***А "Зважай" цяпер у даўгох. Ці можам дазволіць, каб яшчэ адзін беларускі праменьчык згас сярод чужых віхураў?***